Гродна
№16 (474),
30 ліпеня 2017
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# У згодзе з сабой, прыродай і Богам





**У БЯГУЧЫМ ГОДЗЕ СПАЎНЯЕЦЦА 5 ГАДОЎ, ЯК У ГРОДНЕ З'ЯВІЛАСЯ СЯМ'Я КАТАЛІЦКІХ СКАЎТАЎ. МАЛАДЫЯ ЛЮДЗІ З ГОНАРАМ РЭАЛІЗОЎВАЮЦЬ САВЁ ПАКЛІКАННЕ, НЯСТОМНА ІМКНУЦЦА НЕСЦІ Ў СВЕТ РАДАСЦЬ І СЯБРОЎСТВА. ЧЫМ АДМЕТНА СКАЎЦКАЯ ПЕДАГОГІКА? ЯКІЯ ЯКАСЦІ ЯНА ВЫХОЎВАЕ Ў ЧАЛАВЕКУ? І ЧАМУ БАЦЬКІ ЦЕШАЦЦА, ШТО ІХ ДЗЕЦІ – СКАЎТЫ?**

*працяг на с. 5*

## Каляндар падзей

***5 жніўня***
*Успамін НПМ Кангрэгацкай (Студэнцкай).*
***6 жніўня***
*Свята Перамянення Пана.*
***14 жніўня***
*Свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Дзень малітоўнай памяці аб палеглых за веру ў лагерах і турмах.*
***15 жніўня***
*Урачыстасць Унебаўзяцця НПМ. Асвячэнне пладоў і кветак.*
***1 верасня***
*78-ая гадавіна распачацця II Сусветнай вайны.*
*Сусветны дзень малітвы аб ахове стварэння.*
***8 верасня***
*Свята Нараджэння НПМ. Блаславенне зерня на пасеў.*
***14 верасня***
*Свята Узвышэння Святога Крыжа.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – у кастрычніку.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;*
*у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Жнівень***
*За асоб залежных ад алкаголю, наркотыкаў, сексуальных адхіленняў. Аб дары вольнасці дзяцей Божых для іх.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

***Верасень***
*Аб Божым блаславенні для дзяцей, моладзі, катэхетаў, настаўнікаў, апекуноў, якія распачынаюць новы навучальны і катэхетычны год. Аб дары мудрасці для іх.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

**"Наваколле – выраз прадбачлівай любові Бога да чалавека". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 13, 44–46**

Езус сказаў народу: "Валадарства Нябеснае падобнае да скарбу, схаванага ў полі, які знайшоў чалавек і ўтаіў. У радасці ад гэтага ён ідзе і прадае ўсё, што мае, і купляе гэтае поле. Яшчэ Валадарства Нябеснае падобнае да купца, які шукае прыгожых пярлін. Знайшоўшы адну каштоўную пярліну, ён ідзе і прадае ўсё, што мае, і купляе яе".

### КРЫНІЦА САПРАЎДНАГА ШЧАСЦЯ – У ПАНУ

У пошуках уласнага шчасця мы вольныя і маем права выбіраць тое, што лічым найлепшым. Але ў той жа час гэтая вольнасць можа стаць перашкодай для дасягнення сапраўднага шчасця, якое мае крыніцу ў Стварыцелі. Што рабіць, каб гэтага не адбылося? Трэба стаць падобнымі да герояў сённяшняга Евангелля: чалавека, што купляе поле, на якім схаваў знойдзены скарб, ці купца, што шукае каштоўных пярлін і пакідае ўсё, каб набыць найпрыгажэйшы скарб – Нябеснае Валадарства.

Бог прагне, каб кожны быў шчаслівы. Таму мае сэнс інвеставаць у тое, што набліжае нас да Яго, не звяртаючы ўвагі на тое, што ў вачах іншых мы рызыкуем і можам страціць усё. Магчыма, пакуль скарб Божага Валадарства закрыты і для нашых вачэй. Але дзеля яго варта аддаць усё, бо менавіта там мы зможам дасягнуць і спазнаць сапраўдную радасць і сапраўднае шчасце.

**ПЕРАМЯНЕННЕ ПАНА**
**Мц 17, 1–9**

Узяў Езус Пятра, Якуба і Яна, брата ягонага, і павёў іх адных на высокую гару. І перамяніўся перад імі, а аблічча Ягонае зазззяла, як сонца, і адзенне Ягонае стала белае, як святло. І вось з'явіліся ім Майсей і Ілля, і размаўлялі з Ім. Пётр сказаў у адказ Езусу: "Пане, добра нам тут быць. Калі хочаш, я зраблю тут тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі". Калі ён яшчэ казаў, светлае воблака агарнула іх, і вось голас з воблака сказаў: "Гэта Сын Мой умілаваны, якога Я ўпадабаў. Яго слухайце". Пачуўшы гэта, вучні ўпалі ніцма і вельмі спалохаліся. А Езус падышоў, дакрануўся да іх і сказаў: "Устаньце і не бойцеся". Калі яны ўзнялі свае вочы, нікога не ўбачылі, акрамя аднаго Езуса. І калі сыходзілі з гары, Езус загадаў ім, кажучы: "Нікому не кажыце пра гэтае бачанне, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых".

### УЗЫСЦІ НА ВЯРШЫНЮ ЖЫЦЦЯ

Евангелле расказвае пра перамяненне Езуса, якое аб'явіла праўду аб тым, што Ён – Божы Сын. Але мэтай Збаўцы не было жаданне зрабіць уражанне на вучняў ці запалохаць іх. Падзея была, між іншым, своеасаблівым урокам: паказала патрэбу падобнага перамянення нас саміх як пацвярджэнне таго, што з'яўляемся Божымі дзецьмі і выбраны Панам.

Адна з умоў перамянення – уздыманне ўгару, да дасканаласці, да якой заклікае Стварыцель. Аднак грэх, слабасці і падзенні, якія заўсёды прысутнічаюць у нашым жыцці, у пэўным сэнсе "зацямняюць", перашкаджаючы падняцца вышэй і стаць лепшымі. Але каб перамяніцца, мы ўсё ж павінны няспынна ўзыходзіць на вяршыню, нягледзячы на складанасці і стомленасць. Варта накіроўвацца ўверх, бо знізу не ўдасца ўбачыць таго, што чакае на вяршыні. Як чуем у Евангеллі, неабходна таксама слухаць Езуса, які з'яўляецца Умілаваным Сынам і "ўказальнікам" на дарозе нашага ўзыходжання, бо інакш заблукаем.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# "Крыху адпачнём", каб лепш глядзець, чуць і гаварыць

*Кожнаму чалавеку неабходны адпачынак ад штодзённых заняткаў і абавязкаў, каб больш часу прысвяціць сабе і бліжнім, якіх Божы Провід ставіць на жыццёвым шляху, каб магчы далей з новымі сіламі рэалізоўваць сваё пакліканне. Перадышкі патрабуюць усе: і дзеці, і дарослыя.*

Канікулы і водпускі даюць магчымасць быць з тымі, з кім нас яднаюць самыя цесныя і прыгожыя сувязі. Гэта таксама час, каб захапляцца разнастайнасцю свету, час для роздуму над сэнсам жыцця. Гэта цудоўная нагода, каб паспаборнічаць з самім сабой. Напрыклад, праз спартыўныя намаганні, паклапаціўшыся аб фізічных уменнях і стане, а таксама праз захаванне разважнасці і дысцыпліны ў выкарыстанні часу канікул, калі няма знешняга рэгулятара ў пастаці школьных ці прафесійных абавязкаў.

Апосталам Езус таксама прапанаваў адпачыць, калі яны былі стомленымі і галоднымі: "Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху адпачніце" (Мк 6, 31). І яны накіраваліся ў прыгожыя землі недалёка Бэтсаіды, дзе вясной было шмат зеляніны.

Запрашэнне Апосталаў да адпачынку – гэта праяўленне клопату Хрыста аб вучнях. Наказ Езуса "крыху адпачніце" азначаў, пэўна, "спыніце цяпер сваю актыўнасць, дайце ўздыхнуць целу, каб маглі набрацца сіл для далейшых дзеянняў".

"Крыху адпачыць" заахвочвае Хрыстос і нас. Гэта значыць, што кожнаму варта перажыць час, каб навучыцца лепш глядзець, чуць і гаварыць.

**Лепш глядзець** у Неба, бо туды мы ўсе імкнёмся. Вельмі важна, каб часта думалі пра Неба, так, як падчас пілігрымкі часта думаем пра месца, у якое скіроўваемся.

**Лепш чуць** цішыню, якой усё больш баімся. Стварыўшы цывілізацыю шуму, ужо амаль не адчуваем лагоднага подыху Святога Духа. У цішыні ж можна пачуць тое, што нам хоча сказаць сумленне, сэрца.

**Лепш гаварыць** самому сабе. Прычым выключна праўду. Сказаць урэшце, што парываем з віртуальным светам, працагалізмам, укрываннем свайго сапраўднага "эга" за стосам папер, якія могуць і пачакаць.

Вольны час і адпачынак з'яўляюцца прыкметай свабоды чалавека. Яны паўстаюць перад намі як заданне для напаўнення жыцця адпаведным зместам, каб яшчэ больш магчы набліжацца да Бога і людзей. Сэнс вольнага часу вернік адкрывае таксама ў межах выканання сваіх рэлігійных абавязкаў. Бо хрысціянства нельга надзяваць і здымаць, як маску, у залежнасці ад сітуацыі.

**Дарагія Чытачы!**

Дзе б мы не праводзілі водпускі і канікулы, давайце будзем сапраўднымі хрысціянамі. Няхай вызнаванне веры ў адзінага Бога, Айца ўсемагутнага, Стварыцеля неба і зямлі, у Езуса Хрыста, Сына Яго адзінага, і ў Святога Духа, Пана і Жыватворцу будзе самай значнай адпускной прыгодай. Няхай гэты час дазволіць кожнаму з нас нанова адкрыць тыя вартасці, якія ў жыцці павінны быць найважнейшымі, дазволіць зноў убачыць у жыцці Бога, бліжняга і самога сябе!




# Фаціма і шкаплер

***У 1917 годзе Найсвяцейшая Панна Марыя, аб'яўляючыся 3-ім малым пастушкам у Партугаліі, звярнула ўвагу на асаблівую актуальнасць і неабходнасць практыкавання ружанцовай малітвы, а таксама нашэння шкаплера.***

Луцыя дос Сантас, візіянерка з Фацімы, якая пазней стала кармэліткай босай, сказала, што падчас славутага цуду сонца, што адбыўся ў Кова да Ірыя, яна разам з бласлаўлёнымі Гіяцынтай і Францішкам бачыла на небе 3 абразы, якія сімвалізавалі 3 часткі Ружанца. Першы абраз быў выявай Найсвяцейшай Сям'і. Другі – прадстаўляў Маці Божую як Маці Балесную, у фіялетавай вопратцы, з мячом, што працінае Яе сэрца. Побач з Марыяй стаяў Езус Журботны. Ён з міласэрнасцю глядзеў на людзей, за якіх аддаў жыццё. На трэцім абразе Маці Божая аб'явілася ў хвалебным адзенні як Маці Божая з гары Кармэль, г. зн. Маці Божая Шкаплерная, укаранаваная Каралевай Неба і Зямлі, з Дзіцяткам Езус на каленях, які трымае ў руцэ святы шкаплер.



Калі с. Луцыя была ўжо ў кармэлі, у яе запыталіся, што яна думае наконт бачанняў з Найсвяцейшай Паннай, якія сімвалізуюць асобныя часткі Ружанца, а таксама паказваюць выяву Маці Божай Шкаплернай. Візіянерка адказала, што Марыя такім чынам хацела заахвоціць нас практыкаваць абодва гэтыя набажэнствы, паколькі Ружанец і шкаплер – найбольш прывілеяваныя марыйныя сакраменталіі, што сёння становяцца настолькі важнымі, якімі яшчэ ніколі ў сваёй гісторыі не былі.

"Шкаплер святы насі, на ружанцы прасі" – сцвярджае старая прыказка. Слушнасць гэтых слоў пацвердзіў II Ватыканскі сабор, адзначаючы, што "калі Маці ўшаноўваюць, то пазнаюць, любяць, належным чынам праслаўляюць і захоўваюць запаведзі Сына" (Lumen Gentium 66). Таму Сабор заахвочваў верных садзейнічаць набожным практыкам у гонар Марыі, якія вякамі рэкамендаваліся Настаўніцкім інстытутам Касцёла (там жа 67). А бл. папа Павел VI, які ўводзіў у жыццё саборныя рэзалюцыі, адзначаў, што пад формамі марыйнай набожнасці айцы мелі на ўвазе ў першую чаргу святы Ружанец і кармэліцкі шкаплер.

Тыя, хто належыць да Брацтва шкаплера, духоўна з'яднаны з ордэнам кармэлітаў і прымаюць удзел у яго дабротах пры жыцці і пасля смерці. Чалавек, што носіць шкаплер, забяспечвае сабе асаблівую апеку Маці Божай адносна душы і цела, а таксама Яе дапамогу ў гадзіну смерці. "Хто памрэ апрануты ў святы шкаплер, не будзе асуджаны", – запэўніла Марыя сваіх дзяцей, якія носяць Яе шату. Хто набожна будзе захоўваць чысціню згодна з статусам, будзе выведзены Маці Божай з чысца ў першую суботу пасля сваёй смерці.

З другога боку, ёсць таксама абавязацельствы, звязаныя з прыняццем шкаплера. У першую чаргу, вернік павінен перaймаць цноты Найсвяцейшай Маці і пашыраць Яе культ. Днём і ноччу насіць на сабе шкаплер ці шкаплерны медальён. Штодзённа прамаўляць малітву, прызначаную ў дзень прыняцця шкаплера (звычайна гэта малітва "Тваёй абароне"), а таксама рабіць дабро бліжнім.

Няхай усведамленне актуальнасці шкаплернага набажэнства ў перажываемы намі 100-гадовы юбілей фацімскіх аб'яўленняў будзе заахвочваннем да яго большага і мацнейшага практыкавання згодна з марыйным пасланнем, якое плыве з партугальскага санктуарыя.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Ян Марыя Віянэй – заступнік святароў

**4 жніўня Касцёл прыгадвае нам постаць вялікага святара, які дапамагаў тысячам людзей сустрэцца з Богам. Ён мог пераўтварыць сэрца і жыццё многіх вернікаў, паказваючы ім міласэрную любоў Пана. Святар з'яўляецца дасканалым прыкладам пераймання для сучаснага духавенства.**

### КЛАПОЦЯЧЫСЯ АБ ВЕЧНЫМ ЖЫЦЦІ ДАРУЧАНЫХ ЯМУ ЛЮДЗЕЙ

Ян Марыя Віянэй нарадзіўся ў 1786 годзе ў сялянскай сям'і ў в. Дардзіі каля Ліона (Францыя). Ва ўзросце 25-ці гадоў паступіў у духоўную семінарыю, але быў з яе выключаны з-за цяжкасцей у вучобе (асабліва ў вывучэнні лацінскай мовы), што вынікалі з адсутнасці адукацыі. Урэшце яму дазволілі здаваць экзамены не па-лацінску, а па-французску. У 1815 годзе Віянэй прыняў святарскае пасвячэнне. Праз 3 гады быў прызначаны пробашчам у в. Арс, дзе пражывала 230 чалавек. За 40 гадоў яго паслугай скрысталіся каля 80-ці тысяч чалавек, якія прыязджалі туды з усёй Францыі. Як святар гэтага дасягнуў?

У рэлігійна занядбанай парафіі кс. Віянэй не шкадаваў сіл, каб вярнуць людзей да прыязнасці з Богам. Прысвячэнне самога сябе для збаўлення іншых выражалася ў спалучэнні пастаяннага посту і доўгіх гадзін, праведзеных на малітве, з душпастырскай актыўнасцю, што заключалася ў катэхезе, цэлебрацыі Эўхарыстыі і сакраманце пакаяння. Менавіта спавяданне стала яго асаблівай харызмай.

Споведзь у святара не трывала доўга, але была эфектыўнай. Кароткія заўвагі пранікалі ў душу нібы стрэлы. Так, напрыклад, выслухоўваючы грахі пэўнага мужчыны, якому, хутчэй за ўсё, не хапала раскаяння, спаведнік расплакаўся. Слёзы ў яго ліліся так доўга, пакуль занепакоены пэнітэнт не запытаўся аб прычыне засмучэння. Пачуў тады: "Я плачу, таму што ты не плачаш".

Святар штодзённа праводзіў у канфесіянале да 17-ці гадзін, а пэнітэнтаў на працягу года меў каля 30-ці тысяч. Стараўся абуджаць у людзях жаданне пакаяння за зло, якое здзейснілі, і адначасова падкрэсліваў прыгажосць Божага прабачэння. Дзякуючы гэтаму, а таксама прынятай у іх на працягу ўсяго жыцця пакуце многім удалося перамагчы ў сабе грэшнікаў (паяднацца з Усемагутным і давесці да Эўхарыстыі).

### АДНОСІНЫ З БОГАМ, ПАБУДАВАНЫЯ НА ШЧЫРАСЦІ

Духоўным цэнтрам парафіяльнага жыцця ў Арсе было ўшанаванне прысутнага ў Эўхарыстыі Хрыста. Раніцай ці вечарам кс. Віянэй гадзінамі адараваў Езуса, укрытага ў Найсвяцейшым Сакраманце. Падчас гамілії часта ўказваў вернікам на табернакль, гаворачы ўзрушана: "Ён там ёсць!". Пастава і навучанні пробашча паспрыялі таму, што парафіяне пачалі часта маліцца перад Найсвяцейшым Сакраментам, прыходзілі ў касцёл не толькі ў нядзелю, але і ў будныя дні. Святар вучыў людзей не быць красамоўнымі падчас адарацыі, а проста і з радасцю трываць у прысутнасці Пана.

Аднойчы ён распавёў наступную чуллівую гісторыю: "Людвік Чафэнджэн, гаспадар з маёй парафіі, раніцай, перш чым скіравацца на працу ў поле, пакінуў матыку перад дзвярамі касцёла і ўвайшоў унутр, каб згаварыць пацеры. І так паглыбіўся ў малітву, што страціў адчуванне часу. Яго сусед, які працаваў недалёка, вельмі здзівіўся, што Людвік у гэты дзень не працуе ў полі. Вяртаючыся дадому, мужчына заўважыў перад уваходам у касцёл матыку. Зайшоў на хвіліну ў святыню і са здзіўленнем убачыў, што Людвік засяроджана моліцца перад табернаклем. Спытаўся: «Што ты тут так доўга робіш?». Людвік з прастатой адказаў: «Гляджу на Пана Бога, а Ён глядзіць на мяне»". У гэтых простых словах заключаецца ўся сутнасць адносін з Богам", – са слязамі на вачах расказваў пробашч з Арса.

### СВЯТЫ ДАР САКРАМАНТУ СВЯТАРСТВА

Св. Ян Марыя Віянэй усведамляў вялікую адказнасць за сваіх парафіян і ўсіх, хто карыстаўся яго святарскай паслугай. Разумеў, наколькі вялікім дарам для чалавецтва з'яўляецца сакрамант святарства, праз які Езус нястомна аб'яўляе свету збаўленне. Таму стараўся дапамагчы вернікам усвядоміць, што святарская паслуга – для ўсіх людзей. Ксёндз так гаварыў у сваіх казанях: "Святар – гэта чалавек, які атрымаў ад Бога яго ўладу", "«Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю Вас» (Ян 20, 21), – сказаў Пан першым святарам". Не раз звяртаўся за падтрымкай у дадзеным пытанні да Святога Пісання: "Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле ўсякаму стварэнню" (Мк 16, 15), "Хто слухае вас, Мяне слухае, і хто вас адкідае, Мяне адкідае" (Лк 10, 16).

Калі святар адпускае грахі, не гаворыць "Бог прабачае цябе", але "Прабачаю табе грахі". Падчас кансэкрацыі не гаворыць "Гэта Цела Пана", але "Гэта Цела Маё". "Калі б не было сакраманту святарства, не мелі б сярод нас Пана Бога. Бо хто ўклаў Яго ў табернакль? Святар. Хто прыняў вашы душы ў супольнасць Касцёла, калі вы нарадзіліся? Святар. Хто корміць іх, каб мелі сілу для зямнога пілігрымавання? Святар. Хто рыхтуе іх, каб маглі стаць перад Богам, вымытыя крывёю Езуса Хрыста? Святар. Заўсёды святар. А калі душа трапляе ў смяротны грэх, хто ўваскрасіць яе да жыцця? Хто верне ёй спакойнае сумленне? Толькі святар. Вы не знойдзеце ніводнага дабра, якое паходзіць ад Бога, каб за ім не стаяў святар", – тлумачыў кс. Віянэй.

"Паспрабуйце паспавядацца перад Маці Божай ці перад якімсьці з анёлаў. Яны ўдзеляць вам адпушчэння грахоў? Не. Ці могуць даць вам Цела і Кроў Пана? Не. Найсвяцейшая Панна Марыя не мае ўлады прывесці свайго Сына ў гостыю. Няхай хоць 200 анёлаў стануць перад вамі, яны не адпусцяць вашых грахоў. Толькі святар можа сказаць: «Ідзі ў супакоі, прабачаю табе». Святарства сапраўды з'яўляецца чымсьці вялікім. Таму надзвычай важна, каб вернікі штодзённа маліліся за святароў аб іх трыванні ў паклікані і аб святасці іх жыцця", – заклікаў слынны святы.

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*





*Кс. Юрый Жэгарын,*
*пробашч парафіі*
*св. Міхала Арханёла*
*ў Навагрудку*

*Некалі адна з манахінь распавяла мне гісторыю з жыцця св. Яна Марыі Віянэя, як аднойчы да яго прыехаў біскуп з Парыжа. Да іерарха дайшлі чуткі, што ўвесь Арс навярнуўся. Ён запытаў у пробашча: "Колькі трэба святароў і грошай, каб навярнуўся ўвесь Парыж?". Ян Віянэй яму адказаў, што дастаткова толькі аднаго святога святара. Падумаўшы, біскуп сказаў: "А калі няма такога святара?". На гэта кс. Віянэй заўважыў, што хопіць аднаго святога біскупа.*

*Гэтая гісторыя назаўсёды адклалася ў памяці, і яна вельмі моцна дапамагае мне не апускаць рукі ў парафіяльным душпастырстве. Калі здараюцца нейкія сур'ёзныя праблемы, на якія не магу паўплываць, адразу ўзгадваю, што ў такія моманты Бог патрабуе, перш за ўсё, маёй вернасці Яму. Гэта дасканала разумеў св. Ян Марыя Віянэй, які прыкладам сваёй сціпласці і святасці змяняў усё навокал. Для сучасных пробашчаў і душпастыраў, на мой погляд, прыклад жыцця гэтага святога дапамагае па-іншаму глядзець на рэчаіснасць і ніколі ні на што не наракаць.*

**Езу** Ты гэтым займіся!

## Малітва за святароў

**Пане Езу, разам са св. Янам Марыяй Віянэем даручаем Табе ўсіх святароў: тых, якіх ведаем, тых, якіх сустрэлі, тых, якія нам дапамагалі і якіх даеш сёння як нашых пастыраў. Ты паклікаў кожнага з іх па імені. Дзякуем Табе за святароў і просім: захавай іх у вернасці Табе, дай ім сілу, давер і радасць у выконваемай місіі. Няхай Эўхарыстыя, якую цэлебруюць, умацоўвае іх і дае сілу для самаахвяравання Табе, за нас і за збаўленне свету. Навучы шанаваць і любіць усіх святароў, а таксама прымаць іх паслугу як дар, што паходзіць ад Цябе. Амэн.**

## СЛОВА для жыцця

**Папа Францішак**



*Езус здзяйсняе "духоўны рэнтген" нашага сэрца, што з'яўляецца зямлёю, на якую падае зерне Слова. Падобна як глеба, нашае сэрца можа быць добрым, і тады Слова прыносіць плён, але можа быць таксама камяністым, непранікальным.*

*Паміж урадлівай раллёй і дарогай, асфальтам, ёсць яшчэ 2 прамежкавыя станы зямлі, якія ў рознай ступені мы можам утрымліваць у сабе. Першы – камяністая зямля. Гэта месца, дзе зерне прарасло, але не змагло глыбока запусціць карані. Такім з'яўляецца павярхоўнае сэрца, у якім камяні ляноты пераважаюць над добрай глебай, у ім любоў нясталая і часовая. Існуе яшчэ апошняя зямля – цярністая, поўная пустазелля, што заглушае культурныя расліны. Калі мы яго культывуем, то прыглушаем рост Бога ў нас. Трэба вырваць гэтыя хмызнякі, бо ў адваротным выпадку Слова не прынясе плёну.*

*Фрагмент разважанняў перад малітвай "Анёл Панскі", 16.07.2017*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Тыя, хто Вас сапраўды кахае, ставяць патрабаванні. Ведаеце, чаму моладзь усяго свету так любіла папу Яна Паўла ІІ? Таму, што ён не гаварыў кампліменты, а ставіў патрабаванні. Пантыфік казаў проста: "Вы павінны ад сябе вымагаць, нават калі іншыя ад Вас не вымагаюць". Маладыя людзі апладзіравалі Святому Айцу і яшчэ больш яго любілі, бо гэта былі словы праўды.*

*Пан Бог таксама ставіць перад намі патрабаванні, бо хоча, каб мы былі добрымі, справядлівымі і шчаслівымі людзьмі. Нават калі Ён дапускае розныя выпрабаванні, а часам цяжкія і балючыя досведы, то чыніць гэта з любові. Прагне, каб мы выйшлі са складаных сітуацый пераможцамі, загартаванымі духоўна і поўнымі Божай моцы.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці 400-годдзя парафіі ў Крамяніцы, 15.07.2017*

**Кс. бп Юзаф Станеўскі**



*Кожнае насілле з'яўляецца падманам, таму што супярэчыць праўдзе нашай чалавечнасці. Супакой – справа не толькі справядлівасці, але ў першую чаргу міласэрнай любові. Таму свет павінен зразумець, што сапраўдны супакой грунтуецца на запаведзі любові Бога і іншага чалавека – нашага бліжняга, незалежна ад яго нацыянальнай ці рэлігійнай прыналежнасці, прафесіі ці маёмасці. Без выканання 2-юх гэтых запаведзей загіне ўсё чалавецтва. Таму давайце праз мучаніцтва нашых братоў і сясцёр ды праз заступніцтва благаслаўлёных маліць Бога аб дары супакою ў нашых сэрцах, сем'ях і народзе.*

*Фрагмент казання, прамоўленага падчас памятнай урачыстасці ў Навумавічах, 15.07.2017*




◆ *“Скардзіцца забаронена”. Таблічка з такім папярэджаннем з’явілася нядаўна на дзвярах апартаментаў папы Францішка ў Доме св. Марты ў Ватыкане, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя Пантыфіка. На ёй таксама падкрэслена: “Перастань скардзіцца і зрабі нешта, каб выправіць сваё жыццё”. Гэтую шыльду папе Францішку падарыў пасля агульнай аўдыенцыі яе аўтар, італьянскі псіхолаг і псіхатэрапеўт Сальва Ноэ. Убачыўшы яе, Святы Айцец сказаў, што павесіць таблічку на дзвярах свайго бюро, але пазней прызнаў, што тая лепш падыходзіць для яго прыватных апартаментаў.*

◆ *Дзяржсакратар Ватыкана кардынал П’етра Паралін рыхтуецца да запланаванага на жнівень падарожжа ў Маскву (Расія), падчас якога ён сустрэнецца, між іншым, з патрыярхам Кірылам і Прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным. “Гаворка ідзе пра будаванне мастоў, што азначае дзейнасць каталіцкага Касцёла і дыялог з праваслаўнай Царквой”, – гаворыць кардынал, дадаючы, што размаўляць будзе таксама аб міжнародных справах – аб Блізкім Усходзе, Сірыі і Украіне.*

◆ *Місіянеры бенедыктынцы з баварскага абацтва Санкт Аціліен (Германія) збіраюцца заснаваць кляштар у Егіпце як “сігнал супраць памяншэння колькасці хрысціян на Блізкім Усходзе”. Пра гэта паведаміў абат настаяцель нямецкіх бенедыктынцаў Ераміяс Шродэр. Сёння манахі маюць свой дом у прыгарадзе Каіра. Другім месцам іх дзейнасці будзе ферма паблізу Суэцкага канала. З 2018 года яна зможа служыць як навіцыят.*

◆ *Французскі фатограф Фабрыс Фуйе падарожнічае па свеце, робячы здымкі сучасных святынь, архітэктура якіх радыкальна адрозніваецца ад кананічных уяўленняў пра эстэтыку храмавых збудаванняў. Аўтарская падборка пад назвай “Corpus Christi” (“Цела Хрыста”) заснавана, у большасці сваёй, на святынях, пабудаваных пасля ІІ Сусветнай вайны. Яны адрозніваюцца мінімалізмам і канцэптуальным дызайнам. Нязменнай – незалежна ад модных тэндэнцый і ўдасканалення будаўнічых тэхналогій і матэрыялаў – застаецца дамінанта вертыкальных плоскасцей, якія вызначаюць накіраванасць кампазіцыі святыні ў нябёсы.*

◆ *Канадскі спявак Джасцін Бібер публічна вызнае сваю веру. З таго часу, як ён прыняў хрост (2014 год), часта ўспамінае, наколькі важная для яго сувязь з Богам. На канцэртах выканаўца дадае ў рэпертуар песні праслаўлення, часам запрашае святароў прамовіць слова. Падчас турнэ “Purpose” у ходзе сіднэйскага канцэрта ён раптам змяніў словы сваёй песні і праспяваў у залу: “Запомніце мае словы: Езус вас любіць!”. Падобныя сведчанні вяртаюць веру ў тых, хто, як Галівуд, што звычайна асацыіруюцца з распустай і грахом.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*




***Прыйдзі на дапамогу,***
***Маці дарагая!***
***Няхай Тваю любоў***
***усе вакол прызнаюць,***
***Няхай Цябе пазнаюць***
***у кожнай краіне,***
***І хай вера ў Бога***
***ў людзей не згіне...***

**Марыя Казлоўская вядомая ў сваёй мясцовасці як паэтэса. Яе вершы неаднойчы друкаваліся ў шматлікіх газетах. Жанчына піша пераважна пра Бога, Касцёл, хрысціянства, па сутнасці, пра сваё штодзённае жыццё. А жыццё ў яе, трэба заўважыць, няпростае, вірлівае...**

# “Кожны верш павінен несці пэўнае пасланне”

## НА ПРАЦУ – З ВЯЛІКАЙ РАДАСЦЮ

Спадарыня Марыя з’явілася на свет у 1941 годзе, падчас ІІ Сусветнай вайны. Нягледзячы на тое, што час быў неспакойны і людзі баяліся за сваё жыццё, бацькі і бабуля з дзядулем выхоўвалі яе ў каталіцкай веры. Са слоў жанчыны, дома заўсёды захоўвалі хрысціянскія традыцыі і цанілі тое, што Божае і святое.

Ужо з самага дзяцінства спадарыня Марыя была перакананая ў сваім пакліканні, бо менавіта так жанчына называе прафесію настаўніка. Таму неўзабаве яна скончыла ўніверсітэт у Гродне. Працавала настаўніцай пачатковых класаў пад Лідай, а пасля – доўгі час у Доцішках.

Жанчына падкрэслівае, што неабходна любіць сваю прафесію, бо тады і жыццё выглядае зусім па-іншаму. **“На працу трэба ісці з вялікай радасцю і запалам, каб кожны дзень уключацца на 100 працэнтаў. Калі чалавек адчувае сябе на сваім месцы і выконвае тое, што яму адпавядае і што ён любіць, кожная работа, нават калі яна вельмі цяжкая, прыносіць асалоду”**, – гаворыць спадарыня Марыя.


Poezja z zielonego zeszytu

*Спадарыня Марыя з задавальненем дзеліцца сваёй творчасцю з іншымі*

На працягу 33-ох гадоў з дня ў дзень жанчына старанна выконвала свае абавязкі. За працу ў школе была ўзнагароджана граматай “Выдатнік народнай асветы”. Як сама адзначае, за гэтыя гады не пакрыўдзіла ніводнага вучня, старалася ўспрымаць усіх аднолькава, нікога не выдзяляючы. **“Вучні прыходзілі да майго дома яшчэ да пачатку заняткаў і чакалі, пакуль выйду. І так цэлай грамадой праводзілі мяне да школы”**, – успамінае настаўніца.

Мінула ўжо 20 гадоў з таго часу, як жанчына пакінула сцэны сваёй любімай школы і перайшла на заслужаны адпачынак. Цяпер яе справу працягвае дачка – таксама настаўніца.

Як трапна адзначае спадарыня Марыя, сёння дзеці іншыя. Ёсць вялікая розніца і ў выхаванні, і ў навучанні, і ў культуры. **“Нараз некалькігадовае дзіця знойдзе штосьці ў тэлефоне ці камп’ютары хутчэй, чым я надзену акуляры. Дзеці вельмі развітыя ў адносінах да новых тэхналогій, але ім не хапае ведаў, мудрасці. Яны менш вучаць на памяць, менш чытаюць і пішуць, што ўплывае на інтэлектуальнае развіццё. Усё радзей яны актывізуюць свае пачуцці на думанне, бо часцей гэта робіць за іх інтэрнэт”**, – не без жалю заўважае настаўніца на пенсіі.

## ПЕРШ ЧЫМ БРАЦЦА ЗА ПАПЕРУ

Першыя вершы з-пад пяра спадарыні Марыі выйшлі ўжо вельмі даўно і адразу “пайшлі ў свет”. Яна вельмі часта пісала, камусьці прысвячала, а копій сабе не пакідала. Уласныя творы пачала запісваць у спецыяльныя сшыткі толькі ў 2004 годзе. Сёння іх ужо вельмі шмат. У некаторых вершы падабраны тэматычна, у іншых – у залежнасці ад мовы, бо піша паэтэса па-польску, па-беларуску і па-руску.

Большасць твораў – пра Марыю, Бога, Касцёл, святароў, веру... Шмат вершаў прысвечана Маці Божай Тракельскай, паколькі з Доцішкаў да санктуарыя вельмі блізка. **“Я часта пілігрымую ў святое месца, і кожны раз гэта незабыўнае спатканне з Марыяй. Яна заўсёды слухае, і Ёй усё можна расказаць”**, – дадае спадарыня Марыя.

Аднак каб на свет з’явіўся верш, неабходна стварыць адпаведны настрой і мець добрае самапачуцце, заўважае суразмоўца. Трэба ўпарадкаваць думкі ў галаве, і толькі потым брацца за паперу і ручку. **“Каб штосьці магло паўстаць, павінна быць ідэальная цішыня. Нават муха не можа перашкаджаць”** (*смяецца* – **заўв. аўт.**), – расказвае жанчына. Дадае, што не піша вершы штодня, а толькі тады, калі ёсць натхненне, **“бо без гэтага ніяк”**. Яго чэрпае, перш за ўсё, у Святым Пісанні, казаннях, артыкулах з газет.

**“Кожны верш павінен, найперш, несці пэўнае пасланне**, – сцвярджае паэтэса. – **Вершы мусяць выхоўваць людзей, каб пасля прачытання можна было штосьці перанесці на сваё жыццё, зрабіўшы яго багацейшым і лепшым”**.

## ЛІХА БЕЗ ДАБРА НЕ БЫВАЕ

Сярод вершаў паэтэсы ёсць той, з якога можна даведацца аб гісторыі яе роднай мясцовасці і аб тым, як вернікі засталіся без сваёй святыні і магілак, якія аказаліся за лініяй мяжы на літоўскім баку. Жанчына апісвае, што людзі балюча перажывалі гэтае адлучэнне.

У размове высвятляецца, што раней в. Доцішкі належала да парафіі Эйшышкі. Кожную нядзелю вернікі ездзілі ў касцёл калгасным аўтобусам. Малодшыя дабіраліся на веласіпедах і нават пяшком (трэба было пераадолець каля 10-ці км). У 1991 годзе паўстала мяжа паміж Беларуссю і Літвой. Доцішкі аказаліся на беларускім баку, а святыня ў Эйшышках – на літоўскім. З’явіліся цяжкасці з даездам да касцёла. **“Памятаю, мы ўваходзім у святыню, а ксёндз ужо прамаўляе казанне... Грамада вернікаў з Доцішкаў зноў заходзіць спазніўшыся”**, – з сорамам узгадвае жанчына.

З кожным годам патрабаванні да пераходу мяжы станавіліся ўсё больш сур’ёзнымі. У лютым 1996 года спадарыня Марыя выступіла з ініцыятывай пабудаваць святыню ў Доцішках. Распачаўся доўгі працэс збору адпаведных дакументаў і атрымання ўсіх неабходных дазволаў. Жанчына вельмі актыўна ўдзельнічала ў гэтай справе. Яе муж, які на той час быў старшынёй мясцовага калгаса, усяляк падтрымліваў высакародную ідэю.

З Божай дапамогай і дзякуючы людской зычлівасці 31 мая 1996 года адбылося асвячэнне пляца пад будаўніцтва касцёла, якое здзейсніў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На Божае Нараджэнне 1998 года Пастэрка была цэлебравана ўжо ў новай святыні. Сям’я Казлоўскіх ахвяравала касцёлу вялікі звон, які сёння склікае парафіян на малітву. **“Людзі не адночы аддавалі апошнюю капейку. Дапамагаў і калгас, і сам біскуп, якія падтрымлівалі будаўніцтва матэрыяльна**, – успамінае жанчына. – **Трэба было таксама шмат маліцца, бо без гэтага сёння нічога не паўстала б”**.

Спадарыня Марыя не шкадавала сіл і брала на сябе рэалізацыю многіх ініцыятыў, што стваралі гісторыю парафіі. **“2 разы на тыдзень вучыла нашых харыстаў касцёльным песням. Спачатку рабіла свае хатнія абавязкі, а потым ляцела на рэпетыцыю ў святыню”**, – успамінае жанчына і адзначае, што тады не было магчымасці надрукаваць тэксты песень на камп’ютары. **“Трэба было іх размножваць ад рукі”**, – дадае. **“Усё, што зараз маем у святыні, прайшло праз мае рукі. Колькі рэчаў я выпрасіла і тут, у краіне, і за мяжой! Прывезла ў касцёл літургічныя шаты і імшальныя кнігі”**, – дадае спадарыня Марыя, якая на працягу многіх гадоў была старшынёй парафіяльнай рады.

Сёння яна надалей служыць пры касцёле – з’яўляецца закрыстыянкай. Адчыняе і зачыняе святыню, чувае над парадкам у закрыстыі. Жыве справамі Касцёла, сваёй супольнасці, служыць Пану Богу і дапамагае ксяндзу пробашчу. Планаў у жанчыны, па яе словах, яшчэ шмат.

***Людское сэрца павінна прагнуць Бога***
***І цераз малітву да Яго знайсці дарогу,***
***Каб з Панам вечна валадарыць у Небе,***
***Душы чалавечай большага не трэба...***


*Перачытваючы свае творы, паэтэса нібы вяртаецца ў мінулае*

## НА ДОБРУЮ ПАМЯЦЬ

Наведваючы Марыю Казлоўскую ў яе родным доме ў Доцішках, бяру ў рукі адзін са сшыткаў, дзе сабрана творчасць паэтэсы. Раз-пораз можна сустрэць вершы ўдзячнасці, у якіх жанчына дзякуе Богу за дар жыцця, за веру, за сваіх вучняў, мужа, які адышоў у вечнасць 3 гады таму... Асаблівая падзяка – за дар новай святыні, якая ўжо амаль 20 гадоў служыць вернікам і з’яўляецца месцам сустрэчы чалавека з Богам.

**“Маё жыццё праляцела вельмі хутка. Кожны дзень я ўсведамляю, што яно цудоўнае, хоць і вельмі кароткае. Трэба імкнуцца пражыць адведзены Богам час як мага лепш, каб пасля нас засталася добрая памяць, а душа пасля смерці магла жыць вечна...”**, – падсумоўвае сустрэчу жанчына.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# У згодзе з сабой, прыродай і Богам



Скаўцкія праграмы накіраваны на духоўнае, інтэлектуальнае і культурнае развіццё маладога пакалення

● працяг са с. 1

## З ГІСТОРЫІ

У Беларусі першым, хто зацікавіўся скаўтынгам і пачаў выкарыстоўваць яго як метад у катэхізацыі быў а. Андрэй Абламейка. І па сённяшні дзень ён актыўна ўдзельнічае ў душпастырстве скаўтаў, вучыць, што вера з'яўляецца не цаглінай, а падмуркам супольнасці, на якім усё будуецца і ўзрастае. У 1999 годзе айцец прапанаваў выкарыстоўваць каталіцкі падыход да скаўтынгу, адаптаваны французскім святаром а. Якубам Сэвінам SJ.

У 2001 годзе каталіцкія скаўты Беларусі ўпершыню прынялі ўдзел у навучальным летніку для шэфаў на возеры Свір. Пасля гэтага паўсталі першыя каталіцкія звязы ў Мінску, Барысаве, Паставах, Віцебску, Гомелі, Івянцы. У 2012 годзе адзінка каталіцкіх скаўтаў з'явіліся ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

## ЧЫМ ЗАЙМАЮЦЦА СКАЎТЫ?

Са слоў звязовых, якія служаць скаўцкім адзінкам, самай доўгачаканай падзеяй становіцца летнік. Маладыя людзі выязджаюць на прыроду, разбіваюць палаткі, забаўляюцца, удзельнічаюць у супольных малітвах… Як правіла, разам з імі прысутнічае святар, а арганізоўваюць і кантралююць працу з дзецьмі бацькі і дарослыя скаўты – Вандроўнікі і Праваднiцы.

У сучасных умовах выезд за межы цывілізацыі з'яўляецца для моладзі сапраўднай прыгодай. Падчас некалькідзённых паходаў маладыя людзі робяць буданы на дрэвах, маленькія каплічкі, гатуюць пасілак, рыхтуюць тэатральныя і забаўляльныя пастаноўкі. Кожны адчувае сябе задзейнічаным у гэтым маленькім жыцці, патрэбным. Вучыцца быць самастойным, дысцыплінаваным, адказным. У падобнай атмасферы загартоўваецца вынослівасць і сіла волі. На працягу года для скаўтаў таксама арганізоўваюцца асеннікі, зімнікі і вясеннікі, праводзяцца сходы, дзе яны паступова адкрываюць радасць сваіх талентаў і ўзрастаюць у сяброўстве.

На пачатку года па традыцыі ладзіцца Дзень братэрскай думкі. Гэта мерапрыемства, якое прымеркавана да Дня нараджэння заснавальніка скаўтынга Роберта Бадэн-Паўэла. Скаўты збіраюцца разам, каб дзякаваць за вялікую скаўцкую сям'ю. Старэйшыя члены руху з усёй Беларусі штогод выбіраюцца ў Нацыянальную вандроўку. Хлопцы пілігрымуюць у Гудагай, дзяўчаты кожны раз выбіраюць новае месца.



Галоўнай падзеяй любога мерапрыемства заўсёды становіцца супольная малітва

Скаўтаў таксама можам убачыць падчас гарадскога Крыжовага шляху ў Гродне. Яны дзеляцца святлом Хрыста праз Бэтлеемскі агонь, прымаючы яго на памежжы, а таксама служаць валанцёрамі падчас правядзення сустрэч моладзі.

## ШКОЛА ВОЛІ, ТРЫВАЛАСЦІ, АДВАГІ

Наватарства скаўтынгу ў часы яго з'яўлення было ў тым, што ў працэсе сумеснай дзейнасці дзеці і дарослыя злучаліся на раўнапраўных умовах, дзе кожны адыгрываў сваю ролю. Дзіця добраахвотна згаджалася з роляй дарослага як старэйшага брата, больш дасведчанага, умелага. Напамінам пра гэтую пазіцыю сёння з'яўляецца знак злучаных вялікага пальца і мізінца падчас скаўцкага салюту. Ён сімвалізуе тое, што ў скаўтынгу старэйшыя дапамагаюць малодшым.

Скаўцкі метад каталіцкага выхавання палягае на некалькіх асноўных прынцыпах. Скаўт праводзіць шмат часу на прыродзе, сярод моладзі. Марыць, але пры тым цвёрда стаіць на зямлі. Скаўт выхоўвае ў сабе пэўныя рысы характару, якія дапамагаюць яму ўзрастаць як верніку і сыну ці дачцэ Касцёла. На першым месцы заўсёды знаходзіцца Хрыстос. "Напагатове!" – не проста дэвіз, а стыль жыцця скаўта. Ён гатовы штодня будаваць Валадарства Езуса ў сваім сэрцы і навакольным свеце. На цяжкасці глядзіць як на штосьці нармальнае. Вучыцца быць пакорным і давяраць Божаму Провіду ў сітуацыях, калі іншыя губляюцца.

## СКАЎЦКАЯ СЯМ'Я

Дзяўчаты і хлопцы займаюцца ў асобных групах. Перш за ўсё гэта абумоўлена тым, каб маладыя людзі здолелі рэалізаваць сябе цалкам, не падзяляючы дзейнасць на мужчынскую і жаночую. Хлопцы таксама мыюць посуд, гатуюць ежу, дзяўчаты – шукаюць дровы і распальваюць вогнішча.

Існуе некалькі адгалінаванняў скаўтынгу па ўзроставым прынцыпе: Ваўчаняты і Божыя кароўкі (хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце 8–11 гадоў), Скаўты і Скаўткі (12–16 гадоў), Вандроўнікі і Праваднiцы (ад 17-ці гадоў). І каб трапіць з адной катэгорыі ў другую, трэба прайсці пэўныя выпрабаванні. Напрыклад, хлопцы здаюць экзамен на ўменне распальваць агонь без запалак, завязваць вузлы, пячы хлеб у палявых умовах. Дзяўчаты робяць назіранні за акружаючым асяроддзем, вучацца дэкараванню свайго паселішча прыроднымі матэрыяламі. Аб дасягненнях скаўта сведчаць нашыўкі, значкі, стужкі і шнуры на яго форме.

Далучыцца да скаўтаў можна ў любым узросце, склаўшы абяцанне служыць Богу і бліжняму ў кожнай патрэбе, а таксама штодня здзяйсняць асноўны абавязак – добры ўчынак. Важна, каб ён быў выкананы "ў цішы" (не напаказ).

Пасля таго, як абяцанні складзены, скаўт усведамляе, што цяпер павінен быць прыкладам для іншых, а для гэтага неабходна пастаянна ўзрастаць. Цяпер ён – брат у вялікай скаўцкай сям'і і сябар для кожнага чалавека. Яго місія не замыкаецца ўнутры супольнасці – ён ганарова нясе сваё сведчанне ў свет.

*Ангеліна Пакачайла*



Раман Адамін
скаўт

*Нядаўна я здаваў іспыты на 1-ую ступень. Адно з заданняў было наступнае: трэба было прасачыць за дзікай жывёлай і зрабіць гіпсавы злепак яе следу. Не першы раз быў задзейнічаны ў гэтай справе, але ўсё роўна было цікава. А яшчэ ў межах экзаменаў я хадзіў на могілкі, каб памаліцца за загінулых у ІІ Сусветнай вайне… Увогуле, столькі карыснага для сябе выносіш! Быць скаўтам – вялікая прыгода.*



Павел Раманчук
звязовы

*У скаўтынгу існуюць некаторыя патрабаванні, каб перайсці на наступную ступень. Але гэта не азначае, што трэба, напрыклад, падцягнуцца дакладна 10 разоў, як гэта зазначана ў дакументацыі скаўтаў. Калі асоба з усіх сіл стараецца зрабіць тое ў 3-ці ці 5-ты раз, гэта залічваецца. А калі з лёгкасцю падцягваецца 10 разоў, то тады ёй варта "дацягнуць" да 15-ці. Да кожнага неабходны індывідуальны падыход. Галоўнае, наколькі чалавек прыкладвае намаганні ў пэўнай справе, імкнецца пераламіць самага сябе. Таксама скаўты маюць добрую магчымасць раскрыць свае таленты. Важна, каб асоба развівалася, не стаяла на месцы.*



Алена Завала
дружыновая

*На мой погляд, хлопцы па сваёй псіхалогіі больш скіраваны на вынік. Яны маюць мэту і імкнуцца да яе. А дзяўчаты… Яны іншыя. Дзяўчаты пазнаюць сябе, адкрываюць у сваёй душы жаноцкасць. Намагаюцца быць падобнымі да Марыі ва ўсім, што робяць. Вельмі важна вучыць іх прыкладу Маці Божай ад першага дня ў супольнасці (канешне ж, прымаючы скаўцкую педагогіку за аснову). І тады ва ўзросце 23-25 гадоў мы бачым асобу, якая гатова няспынна служыць Богу, кажучы: "Няхай споўніцца Твая воля!". У чатырох літарах слова "Fiat" схаваны сакрэт вечнай радасці. І мы гатовыя гэтым сакрэтам дзяліцца!*



А. Андрэй Врублеўскі
душпастыр скаўтаў

*Вялікае хараство асобнага выхавання хлопцаў і дзяўчат заключаецца ў тым, што сярод "сваіх" яны прымаюць сябе такімі, якія ёсць, без масак. Вядома, што ў змешанай кампаніі маладыя людзі паводзяць сябе інакш. А тут не трэба імкнуцца спадабацца, таму яны трымаюцца натуральна. Інакш перажываюць радасці, свае слабасці і перамогі. Ім камфортна быць сабой. Таму і духоўная фармацыя адбываецца лягчэй. Упэўнены, што скаўтынг – гэта цудоўны інструмент для Касцёла ў катэхетычнай працы.*



Ірына Грыдзюшка
маці аднаго са скаўтак

*На працягу 2-ух гадоў, як мая дачка ў скаўтынгу, назіраю за ёй станоўчыя перамены. Стала больш самастойная, уважлівая, адказная. Вучыцца загартоўвацца ў цяжкасцях, трымацца ў калектыве. Што вельмі прыемна, раскрываецца творча, пастаянна рыхтуючыся да культурнай праграмы на зборах. Як маці магу запэўніць: дзеці, якія належаць да скаўцкай сям'і, больш моцныя ў жыцці, яны мала чаго баяцца. Я ўсім раяваду, што мая дачка – у ліку скаўтаў! І за гэта вельмі ёй ганаруся.*







Catholic.by

### 35 мільёнаў падпісчыкаў на "папскі" Twitter

**Такая лічба інтэрнэт-карыстальнікаў, якія сочаць за акаўнтам Папы Рымскага ў сацыяльнай сетцы, была зарэгістравана ў ліпені бягучага года.**

*Да гэтага часу на профілі @Pontifex з'явілася больш за 10 тысяч запісаў на 9-ці мовах: англійскай, арабскай, французскай, іспанскай, лацінскай, нямецкай, польскай, партугальскай і італьянскай.*

*Цікава, што лічба падпісчыкаў ад 33-ох да 34-ох мільёнаў расла амаль 3 месяцы, а ад 34-ох да 35-ці мільёнаў – усяго 30 дзён. Найбольшая частка наведвальнікаў у гэты перыяд далучылася да англамоўнай версіі.*

CatholicNews.by

### "Ружанец да межаў"

**Праект пад такой назвай рыхтуецца ў Польшчы. Яго галоўная мэта – агарнуць усю краіну ружанцовай малітвай.**

*На заканчэнне святкавання 100-годдзя фацімскіх аб'яўленняў, у свята Маці Божай Ружанцовай (7 кастрычніка), палякі будуць маліцца за выратаванне сваёй Радзімы і ўсяго свету. Ахвотныя адправяцца ў "пункты малітвы", што будуць размешчаны праз кожны кіламетр уздоўж усёй мяжы Польшчы, якая налічвае больш за 3,5 тысячы кіламетраў.*

*"Марыя з'яўляецца Каралевай Польшчы. У крытычныя моманты гісторыі Яна заўсёды была побач, а мы былі з Ёй. Як ратунак для свету, Маці Божая паказвае на ружанцовую малітву. Мы верым, што нам удасца такім чынам адказаць на Яе заклік", – адзначаюць ініцыятары акцыі.*

Nasz Dziennik.pl

### У Вастрабрамскай капліцы плануецца рэстаўрацыя

**Аднаўленчыя працы распачнуцца ў наступным годзе і працягнуцца да 2020 года.**

*"Мы аднойм не толькі адзін з найкаштоўнейшых сакральных аб'ектаў, але і створым больш зручныя ўмовы для пілігрымаў і турыстаў", – адзначыў арцыбіскуп Віленскі Гінтарас Грушас.*

*Падчас рамонту, між іншым, будзе ўстаноўлены ліфт, што дазволіць наведваць капліцу асобам з абмежаванымі магчымасцямі. Абраз Маці Божай Вастрабрамскай змесцяць за спецыяльным шклом. У прылягаючым да капліцы касцёле св. Тэрэзы адновяць вітражы, насценны жывапіс, скляпенні, цэнтральныя дзверы. У святыні таксама будзе падрыхтавана экспазіцыя скарбніцы Вострай Брамы.*

*Кінга Красіцкая*

## Рэліквіі блаславёных назарэтанак унесены ў касцёл у Рандзілаўшчыне

***Урачыстую падзею здзейснілі манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, прадстаўніцы якой і былі расстраляны падчас ІІ Сусветнай вайны пад Навагрудкам.***

Св. Імшу ў парафіяльным касцёле Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Падчас гаміліі іерарх заклікаў удзельнікаў літургіі да працы над сабой і выпраўлення ўласнага жыцця, каб такім чынам заслужыць удзел у Нябесным Валадарстве.

Звяртаючыся да вернікаў, якія ў гэты дзень прымалі сакрамант канфірмацыі, біскуп Юзаф заклікаў адважна ісці праз жыццё, нават калі на шляху будуць розныя цяжкасці і перашкоды. "Заўсёды абірайце шлях Езуса Хрыста, як гэта дасканалым чынам зрабілі блаславёныя сёстры мучаніцы з Навагрудка, што з вялікай любові



да Бога і Яго Касцёла склалі найлепшую ахвяру – сваё жыццё", – адзначыў іерарх.

На заканчэнне Імшы пробашч парафіі кс. Андрэй Пышынскі падзякаваў прысутным за дар супольнай малітвы і падкрэсліў, што ў гэты дзень невялікая парафіяльная супольнасць у Рандзілаўшчыне атрымала новых апякунак, якія цяпер будуць заступаца за мясцовых вернікаў перад Богам у розных патрэбах душы і цела.

## Сустрэча членаў малітоўнага руху "Маргарытка" адбылася ў Тракелях

***Каля 250-ці чалавек з усёй дыяцэзіі, якія абавязаліся маліцца ў інтэнцыі канкрэтных святароў, спаткаліся ў санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў. У праграме сустрэчы былі запланаваны канферэнцыі, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, св. Імша і Вяночак да Божай міласэрнасці.***

Літургію ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі іерарх узгадаў пра свята св. Марыі Магдалены, якое адзначалася ў гэты дзень. Біскуп заўважыў, што сустрэча святой з Езусам цалкам змяніла яе жыццё. Жанчына ўсім сэрцам прыхілілася да свайго Настаўніка і пайшла за Ім, стаўшы Яго вучаніцай. "Прыклад Марыі Магдалены вучыць нас бязмежна давяраць Пану Богу, Яго любові, верыць, што адносна кожнага чалавека Ён мае адзіны, непаўторны план. І гэта план любові і збаўлення", – падкрэсліў іерарх.



Таксама падчас Імшы ў малітоўную супольнасць былі прыняты новыя кандыдаты, якія паабяцалі ў прысутнасці ардынарыя на працягу ўсяго далейшага жыцця маліцца за абранага святара. На заканчэнне кс. Валерый Быкоўскі, духоўны кіраўнік Апостальства вечнай малітвы за святароў, паведаміў, што ўжо створана 1056 "Маргарытак", з якіх 300 – у бягучым годзе.

## На месцы спаленага касцёла ў Клюшчанах будзе пабудавана капліца

***Распараджэнне аб зборы матэрыяльных сродкаў на ўзвядзенне новай святыні выдаў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.***

"Ад імя клюшчанскіх вернікаў звяртаюся да Вас, дыяцэзіяне, з просьбай быць салідарнымі і сабраць ахвяраванні на будаўніцтва капліцы, якая з'явіцца на месцы страчанага касцёла", – заахвочвае ў распараджэнні біскуп.

Старадаўні касцёл св. Яўхіма з амаль 300-гадовай гісторыяй згарэў дашчэнту 6 чэрвеня. Збор ахвяраванняў ва ўсіх



касцёлах Гродзенскай дыяцэзіі пройдзе ў нядзелю 6 жніўня.

## Пешая пілігрымка з Гродна ў Навагрудак адбылася ў 8-мы раз

***Паломніцтва да месца спачыну навагрудскіх сясцёр мучаніц сабрала нямала вернікаў ва ўзросце 7–63 гадоў. На працягу 7-мі дзён яны дзякавалі блаславёным манахіням за складзеную ахвяру і маліліся ў інтэнцыі сем'яў.***

Перад выхадам паломнікі сабраліся ў касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. З гаміліяй да прысутных звярнуўся духоўны кіраўнік пілігрымкі кс. Віталій Сідорка. Разважаючы над тэмай мучаніцтва сясцёр з Навагрудка, святар адзначыў, што іх рашэнне аддаць жыццё за бліжніх не было мімалётным імпульсам, але вынікала з моцнага малітоўнага фундамента, які дазваляе рабіць адважныя крокі. "Так і мы падчас шляху будзем загартоўваць нашу веру, каб з яе дапамогай



прымаць мудрыя і смелыя рашэнні ў сваім жыцці", – падкрэсліў кс. Віталій.

Паломніцтва завяршылася ў Батароўскім лесе на месцы мучаніцкай смерці сясцёр. Урачыстасці ў чарговую гадавіну расстрэлу манахінь узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

## Рэкалекцыі для сем'яў адбыліся ў Навагрудку

***На сёлетняй сустрэчы ў кляштары назарэтанак сабралася рэкордная колькасць удзельнікаў, якія прыбылі з розных куткоў Беларусі, – 75 чалавек.***

Падчас тэматычных канферэнцый манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта і кс. Мікалай Ціхановіч распавядалі прысутным пра ролю сям'і, пагрозы ў жыцці, прычыны разводаў, неабходнасць перамогі над грахом.

Сужэнцы дзяліліся цяжкасцямі, з якімі сустракаюцца ў сямейным жыцці, і спосабамі іх пераадольвання. Распавядалі аб тым, як перажываюць веру ў шлюбе. Для дзяцей была прапанавана спецыяльная праграма, якая ўключала час на адпачынак і знаёмства з праўдамі веры.



Як адзначыла с. Мар'яна Алешчык CSFN, адна з арганізатарак рэкалекцый, сустрэча стала для сямейных пар добрай нагодай, каб аднавіць адносіны ў сужэнстве, а таксама з Богам.

## АНОНСЫ

### ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ "LAUDATO SI" АДБУДЗЕЦЦА Ў БЕРАЗІНСКІМ

**Мерапрыемства будзе праходзіць 12–13 жніўня.**
**У першы дзень фестывалю адбудзецца конкурс музыкаў, будуць таксама малітвы, знаёмства, забавы, а ў другі дзень – урачысты гала-канцэрт.**

Каб прыняць удзел у мерапрыемстве, трэба падрыхтаваць 2 спевы хрысціянскага зместу і даслаць сваю анкету на электронны адрас laudatosi.post@gmail.com. "Мы будзем вельмі рады бачыць прадстаўнікоў любога ўзросту, веравызнання, музычнага стылю і напрамку", – адзначаюць арганізатары фестывалю. Да ўдзелу запрашаюць таксама валанцёраў.

*Скантактавацца з арганізатарамі можна па тэлефонах: (8 025) 539-48-35 – Андрэй, (8 025) 539-52-36 – Алёна. Дадатковая інфармацыя – у суполках сацыяльных сетак VK і FB.*

### ПАРАФІЯ Ў САПОЦКІНЕ ЗАПРАШАЕ НА ПРАЦУ АРГАНІСТА!

**У касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча патрабуецца супрацоўнік з уменнем іграць на клавішным інструменце.**

*Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у пробашча парафіі кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29.*

### У ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫМ САНКТУАРЫІ Ў РОСІ АДБУДЗЕЦЦА ЎСЯНОЧНАЕ ЧУВАННЕ

**5–6 жніўня ў санктуарыі Пана Езуса Журботнага – згодна са шматгадовай традыцыяй – адбудзецца ўсяночнае малітоўнае чуванне вернікаў перад славутай ласкамі фігурай Хрыста. Яно распачнецца ў 21.00. Св. Імша на заканчэнне адбудзецца на наступны дзень у 10.00. Дэвіз сёлетніх урачыстасцей – "Праз Марыю да Езуса".**

*Да ўдзелу ў чуванні і малітве вернікаў дыяцэзіі запрашае біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

**Дадзеныя курсы рыхтуюць спецыялістаў для катэхетычнай працы ў парафіях. Далучыцца да ліку студэнтаў могуць таксама тыя ахвотныя, якія жадаюць глыбей пазнаць хрысціянскую веру і стаць праваднікамі на шляху да збаўлення.**

У адукацыйнай праграме прадугледжана вывучэнне такіх прадметаў, як каталіцкая дагматыка, маральная і духоўная тэалогія, Святое Пісанне, катэхетыка, кананічнае права, літургіка, каталіцкая псіхалогія і педагогіка, этыка сямейнага жыцця і інш. Навучанне адбываецца ў завочнай форме. Працягваецца 3,5 гады.

**Кандыдаты павінны прадставіць да 30 жніўня ў сакратарыят Гродзенскай курыі наступныя дакументы:**
- пасведчанне аб сакраманце хросту,
- атэстат сталасці,
- медыцынскую даведку,
- 4 фатаграфіі,
- ксеракопію пашпарта,
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
- рэкамендацыю ад пробашча,
- заяву з просьбай аб прыняцці.

Прадугледжана папярэдняя суразмова. Заняткі распачнуцца 30 верасня. Будуць праходзіць праз кожныя 2 тыдні ў суботу і нядзелю.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах: (8 0152) 75-33-08, (8 029) 976-15-69. E-mail для даведак: katecheza.kuria@gmail.com.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Юзаф Кучынскі, *проб. Уселюб;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Міхал Далецкі, *проб. Навагрудак;*
**2 жніўня 1989 г.** – кс. Рышард Вербель, *проб. Рось;*
**7 жніўня 2002 г.** – кс. канонік Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы;*
**11 жніўня 2015 г.** – кс. прэлат Міхал Сапата, *ген. вік., Гродна;*
**11 жніўня 1996 г.** – кс. прэлат Баляслаў Гаўрыхоўскі, *проб. Гожа;*
**14 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Герняты;*
**14 жніўня 1978 г.** – кс. Чэслаў Штэйн, *проб. Радунь;*
**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабно;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэлат Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфулат Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Адольф Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына;*
**9 верасня 1959 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
**13 верасня 2004 г.** – кс. прэлат Ян Граеўскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**17 верасня 1963 г.** – кс. прэлат Ігнат Альшанскі, *проб. Жалудок;*
**17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***







# Мары спраўджваюцца!

*На пачатку лета бягучага года кс. Ян Раманоўскі вырушыў у Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія) – адзін з найбуйнейшых цэнтраў паломніцтва. З усяго зямнога шару ў сабор, дзе знаходзіцца грабніца св. апостала Якуба, рознымі спосабамі пілігрымуюць людзі: пяшком, на веласіпедах, часам на конях. Аднак самы папулярны спосаб пілігрымавання – пехатой. За 3 тыдні святар хадою пераадолеў шлях, які па працягласці, мабыць, складае ў суме даўжыню дарог усіх пілігрымак да Тракеляў… памножаную на 2. Паломніцтва мела інтэнцыі падзякі за 2 гады навучання ва ўніверсітэце ў Памплоне і паспяховую абарону магістарскай работы. Да іх былі таксама далучаны просьбы, у якіх кс. Яна прасілі маліцца родныя, сябры і знаёмыя.*

***Кс. Ян, калі Вы ўпершыню пачулі пра Шлях св. Якуба?***

Я быў яшчэ клерыкам. Аднойчы натрапіў на амерыканскі фільм "The Way" ("Шлях"), у якім бацька высвятляе, што яго сын загінуў на Каміна-дэ-Санцьяга, і вырашае прайсці гэтай дарогай замест сына. На жаль, ён да канца так і не разумее сэнсу пілігрымкі. Пасля прагляду фільма ўнутры мяне нарадзілася ідэя, каб таксама прайсці маршрутам да месца, дзе знаходзяцца парэшткі св. апостала Якуба. Але доўгі час гэта заставалася толькі ідэяй.

У 2015 годзе разам са знаёмымі мы пастанавілі пераадолець той шлях. Аднак з-за выезду на вучобу ў Іспанію, збору і афармлення адпаведных дакументаў я мусіў пакінуць ідэю. План, усё ж, надалей заставаўся ў маёй свядомасці. Будучы ўжо ва ўніверсітэце ў Памплоне, я сустракаў пілігрымаў, паколькі праз кампус навучальнай установы праходзіць гэты шлях. Вітаўся з паломнікамі словамі "Buen Camino!" ("Добрай дарогі!"), а сам думаў, што абавязкова таксама пайду тым шляхам. Пасля заканчэння першага года навучання я надзеў рукзак і вырушыў у Санцьяга-дэ-Кампастэла, горад св. апостала Якуба.

***Мара здзейснілася...***

Нават 2 разы! Год таму я пілігрымаваў у Санцьяга Шляхам французскіх каралёў (Camino Frances), якім звычайна ідзе вельмі вялікая колькасць паломнікаў. А ў гэтым годзе вырушыў Паўночным шляхам (Camino del Norte), што мае меншую папулярнасць у пілігрымаў. Падчас першага шляху пераадолеў 705 кіламетраў. Скіраваўся яшчэ на т. зв. "край свету" – мястэчка Фіністэр, у якім, паводле традыцыі, скончыў сваё пілігрымаванне св. Якуб. Паколькі ў тыя часы людзі думалі, што далей ужо нічога няма, то лічылі: там, дзе зямля злучаецца з вадой, знаходзіцца край свету. Другі шлях працягласцю 815 кіламетраў прайшоў не так даўно за 22 дні.



***Чым адрозніваюцца паміж сабой гэтыя шляхі?***

Другі шлях, хіба, цяжэйшы, што тычыцца фізічных намаганняў, а таксама прыродных і кліматычных умоў. Напрыклад, вельмі часта на працягу ўсяго дня неабходна ўзыходзіць на гару, а потым сыходзіць з яе, або некалькі дзён можна ісці пад праліўным дажджом, не маючы магчымасці высушыць адзенне. Але ўсё гэта толькі дабаўляе паломніцтву асаблівай выключнасці. З іншага боку, другую пілігрымку я перажыў, як мне здаецца, больш плённа ў духоўным плане, паколькі ішоў увесь час адзін, прысвячаючы шмат часу малітве і разважанням.

***Дзе даводзілася спыняцца на начлег?***

На шляху ёсць т. зв. альберге – прытулкі для пілігрымаў, дзе можна пераначаваць. Там можна сустрэць людзей з розных краін: Новай Зеландыі, Аўстраліі, Расіі, Ангенціны… Часам выпадаў шанс спыніцца ў кляштары, напрыклад, цыстэрсаў, дзе ўдавалася прыняць удзел у супольнай малітве. Дарэчы, я заўсёды стараўся спыняцца на начлег у мясцовасці, дзе ёсць касцёл і мелася б магчымасць канцэлебраваць св. Імшу. У адну з нядзель трапіў у касцёл, дзе адбывалася ўрачыстасць Першай св. Камуніі, што было для мяне трохі незвычайным досведам. Іншым разам у пэўнай мясцовасці святары запрасілі мяне на вячэру, а на наступны дзень – на сняданак. Гэта таксама быў цудоўны вопыт святарскага братэрства.

***Якія людзі сустракаліся на Вашым шляху?***

На Каміна спатыкаеш розных людзей ва ўзросце 6–80 гадоў. З многімі з іх можна паразмаўляць на разнастайныя тэмы. Але, праўду кажучы, большую частку свайго паломніцтва я прайшоў адзін, размаўляючы з пілігрымамі толькі ў месцах начлегу. Я меў свой рытм і за дзень праходзіў каля 40-ка кіламетраў. У апошні дзень пазнаёміўся з 4-ма старэйшымі мужчынамі, палякамі, якія ўжо шмат гадоў жывуць у Германіі. Калі сказаў ім, што я ксёндз, запрасілі мяне на супольную малітву і папрасілі аб блаславёнстве на далейшы шлях.

***Дарэчы, як даюцца апошнія кіламетры?***

Не перадаць таго, што адчуваеш, калі ўсведамляеш,




што знаходзішся ўжо побач з мэтай свайго пілігрымавання, што застаецца ўсяго пара дзён ці некалькі дзясяткаў кіламетраў. Тады маеш незвычайнае адчуванне сустрэчы з кімсьці важным у сваім жыцці. Гэтае адчуванне падобна да таго, што маем перад сустрэчай з асобай, якую ўжо даўно не бачылі. Але, на самой справе, гэта цяжка растлумачыць – трэба перажыць.

***Вярнуўшыся ў Беларусь, якой Вам запомніцца Іспанія?***

Іспанія ў маёй памяці застанецца краінай, якую вельмі палюбіў за яе незвычайную багатую культуру, за зычлівых і адкрытых людзей, якія заўсёды ўсміхаюцца. Але з іншага боку, на жаль, як і ў шматлікіх еўрапейскіх краінах, Касцёл там перажывае складаны перыяд. Не хапае святароў, у многіх дыяцэзіях сярэдні ўзрост духоўных асоб складае 60-65 гадоў. Ёсць таксама праблемы з рэлігійным жыццём саміх іспанцаў. Як сказаў адзін са святароў, якога сустрэў на Каміна, сёння Іспаніі патрэбна новая евангелізацыя. Лібералізм, маральны і этычны крызіс – адны з прычын гэтага.

***Ці была гэтая пілігрымка па Каміна апошняй?***

Спадзяюся, што вярнуся на Шлях св. Якуба, каб яшчэ раз перажыць тую незвычайную атмасферу малітвы, спакою і свабоды ад розных перажыванняў і цяжкасцей. Там знаходзішся нібы ў іншай рэчаіснасці!

*Ангеліна Пакачайла*

## Увага! Конкурс!

Рэдакцыя "Слова Жыцця" аб'яўляе конкурс творчых работ сярод чытачоў на тэму "Маё лета з Богам 2017". Ахвотным прапануецца даслаць у рэдакцыю фотаздымак ці гісторыю, што будзе адлюстроўваць незабыўны духоўны адпачынак. Удзельнікаў чакаюць прызы!

*Творчыя работы просім дасылаць да 10 верасня на адрас рэдакцыі: 230025 г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, – або на электронную скрыню slowo.grodnensis@gmail.com.*

***Чытач, падзяліся з намі, як правёў сваё лета! Упэўнены, Табе ёсць пра што распавесці.***






### *Ці могуць спінэры (забаўляльныя кругільныя цацкі) нанесці шкоду дзіцяці?*

*Прапаную для пачатку звярнуцца да гісторыі ўзнікнення спінэраў. Вікіпедыя прадстаўляе 2 версіі, якія прыпісваюць аўтарства Кэтрын Хэцінгер, інжынеру-хіміку па адукацыі, што стварыла гэтую цацку яшчэ ў 1990-я гады. У інтэрв'ю для амерыканскай газеты "The New York Times" яна сказала: ідэя спінэра прыйшла да яе пасля таго, як убачыла ў Ізраілі арабскіх хлопчыкаў, што кідалі камяні ў паліцэйскіх. У адказ на гэта ёй захацелася стварыць цацку, якая б дапамагала дзецям пазбаўляцца назапашанай энергіі. У той жа час у інтэрв'ю для брытанскай газеты "The Guardian" жанчына адзначыла, што стварыла цацку для сваёй дачкі, каб дапамагчы ёй абстрагавацца ад сіндрома паталагічнай мышачнай стамляльнасці, на які тая пакутавала.*

*Сёння сапраўды можна сустрэць шмат публікацый, дзе гаворка ідзе пра пазітыўнае ўздзеянне спінэраў. Напрыклад, што яны дапамагаюць зняць стрэс асобам у дэпрэсіі і прыносяць карысць аутыстам. Часта таксама можна спаткаць выказванні, што гульня са спінэрам дапамагае дзіцяці быць больш сканцэнтраваным, калі гэта неабходна. Негатыўных артыкулаў, дзе адзначаюць, што спінэры – гэта выдумка д'ябла, таксама хапае. Але на сённяшні момант афіцыйнага вучэння Касцёла на тэму выкарыстання спінэраў няма.*

*Думаю, добрай аналогіяй да карыстання спінэрам з'яўляецца прыклад з інтэрнэтам. У сусветнай павуціне сустракаецца шмат пазнавальных, хрысціянскіх сайтаў. А ёсць дэструктыўныя, бессэнсоўныя і амаральныя. І пытанне добрага ці дрэннага ўздзеяння інтэрнэта толькі ў тым, якія старонкі мы праглядаем і дзеля чаго. Падобна і з выкарыстаннем тэлефона, камп'ютара, Playstation ці таго ж спінэра.*

*Сам па сабе ён не з'яўляецца чымсьці дрэнным. Уся справа ў тым, як яго выкарыстоўваць. Калі з-за цацкі дзіця закінула свае штодзённыя абавязкі і хобі, тады сапраўды варта адмежаваць яго ад гэтай забаўкі. Калі ж спінэр спрыяе зняццю стрэсу, дапамагае адцягнуць увагу дзіцяці ад празмернага сяджэння за камп'ютарам і павысіць узровень канцэнтрацыі, не бачу шкоды ў яго выкарыстанні. А дазваляць маладым людзям гуляць са спінэрам ці не – вырашаць, канешне, бацькам у залежнасці ад таго, як гэтая цацка ўплывае на іх дзяцей.*

*Кс. Андрэй Лішко*
***Паводле grodnensis.by***




## Што мы ведаем пра бацькоў Марыі?

У кожнага чалавека ёсць свае бацькі. Яны былі і ў Найсвяцейшай Панны. Што нам пра іх вядома?

Згодна хрысціянскай традыцыі, бацькамі Марыі былі Яўхім, які паходзіў з Назарэта, з царскага роду Давіда, з месіянскага калена Юды, і Ганна – з Бэтлеема, з архірэйскага роду Аарона, са святарскага калена Левія.

Сужэнства было жанатае 20 гадоў. Вяло праведнае жыццё, аказваючы міласэрнасць бедным і вандроўнікам, рэгулярна прыносячы ахвяраванні ў Божы храм. Але Усемагутны не даваў сужэнскай пары дзяцей – была бясплодная. Калі падчас аднаго свята Яўхім прыйшоў у Ерусалім, першасвятар Рувім не прыняў яго дароў на падставе таго, што той не пакінуў нашчадкаў Ізраілю.

Прагледзеўшы радавод 12-ці плямёнаў, Яўхім убачыў, што ўсе праведнікі мелі дзяцей. Засмуціўшыся, ён пайшоў у пустыню, дзе пасціўся і маліўся Богу 40 дзён і 40 начэй. Па сканчэнні гэтага часу Анёл абвясціў яму пра нараджэнне дачкі Марыі: "Яўхім, Яўхім, Бог пачуў твае малітвы. Ідзі адсюль, бо жонка твая Ганна зачне ва ўлонні сваім".



Ганна, застаўшыся без Яўхіма, таксама малілася Пану, каб дараваў ёй дзіця. Пры гэтым жанчына дала абяцанне, што прысвеціць сваё дзіця Богу. Прад ёй паўстаў Анёл і сказаў: "Ганна, Ганна, Пан пачуў тваю малітву. Ты зачнеш і народзіш, і пра нашчадства тваё будуць гаварыць ва ўсім свеце".

Анёл загадаў Ганне ісці ў Ерусалім, прадказаўшы, што яна сустрэне свайго мужа ля Залатых варот. Так і адбылося. Залатыя вароты сталі сімвалам бязгрэшнага зачацця Марыі. Яўхім і Ганна прынеслі ўдзячныя ахвяры ў Божы храм.

Праз пэўны час у Назарэце нарадзілася Найсвяцейшая Дзева. Па юдэйскаму звычаю ў 15-ты дзень пасля нараджэння Ёй было дадзена імя Марыя, названае Анёлам Божым, што значыць "высокая", "якая пераўзыходзіць", "спадарыня", "надзея". Да 3-гадовага ўзросту Марыя жыла ў доме бацькоў, а затым урачыста была прыведзена імі ў святыню, дзе выхоўвалася да паўналецця.

Неўзабаве пасля ўвядзення ў храм Багародзіцы 80-гадовы старац Яўхім памёр. Ганна перажыла яго на 2 гады і адышла да Бога ва ўзросце 79 гадоў. Марыя заўсёды шанавала сваіх бацькоў і была ўдзячная ім за ўсё, што атрымала.

Мы таксама павінны шанаваць сваіх бацькоў і заўсёды пра іх памятаць. Пацвярджэннем таму няхай будзе грузінская прытча "Падвесны мост", якую зараз прапануем Тваёй увазе.

**На шляху паміж двума высакагорнымі паселішчамі была глыбокая цясніна. Жыхары гэтых мясцовасцей пабудавалі над ёй падвесны мост, які складаўся з чатырох тросаў. Паміж двума ніжнімі знаходзіліся драўляныя дошчачкі, па якіх хадзілі людзі і нават пераганялі быдла. А два іншыя тросы служылі парэнчамі, за якія можна было трымацца, пераходзячы цясніну.**

**Мясцовыя жыхары настолькі прызвычаіліся хадзіць па гэтым мосце, што маглі нават не трымацца за парэнчы. Па дошчачках бясстрашна перабягалі цясніну дзеці.**

**Але вось аднойчы раніцай два верхнія тросы кудысьці зніклі. Людзі падыходзілі да моста, але ніхто з іх не змог зрабіць і кроку па ім. Хоць пры наяўнасці за тросы можна было і не трымацца, без іх цясніна здавалася непераадольнай.**

Так і з бацькамі. Пакуль яны жывыя, нам здаецца, што можам абысціся без іх. Але як толькі мы іх губляем, жыццё адразу пачынае здавацца вельмі цяжкім.

*С. Веранiка Блізнюк FMA*



**Заданне:**

**памаліся за сваіх бацькоў, падзякуй ім за выхаванне і за ўсё тое, што ад іх атрымліваеш.**

Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Валерый Быкоўскі!**

З нагоды Дня нараджэння прыміце шчырыя віншаванні і словы падзякі. Жадаем Вам моцнага здароўя, шмат сіл і душэўнага супакою. Няхай людзі, што Вас акружаюць, заўсёды шчыра разумеюць і падтрымліваюць. Дзякуй за абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца. Мы ўдзячны Вам за клопат аб удзельніках Апостальства малітвы за святароў "Маргарытка". Няхай Бог Вас блаславляе, Маці Божая атуляе сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух нястомна адорвае неабходнымі ласкамі.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, а выконваемая праца прыносіць радасць і благаслаўлёны плён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца. Дзякуем за цудоўны прыклад набожнасці і шчасці Божа ў далейшай душпастырскай паслузе.

*З павагай і малітвай, парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Леўчыку**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас усімі ласкамі, Яго бясконцая любоў ніколі не абуджае сумненняў, а Яго сталая прысутнасць пры Вас заўсёды будзе выразнай і адчувальнай. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас сваімі дарамі, падтрымлівае ў абвяшчэнні свету Добрай Навіны, адорвае стойкасцю і красамоўнасцю ў набліжэнні вернікам праўд веры. Няхай Марыя праз свой клопат і апеку развівае ў Вашым сэрцы любоў і давер.

*З малітвай, моладзь з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаны Ксёндз Віктар Ханько!**

З нагоды Імянін хочам падзякаваць добраму Богу за дар Вашага жыцця. Удзячны таксама Вам за падтрымку, якую кожны з нас атрымлівае, за добрае і адкрытае сэрца. Жадаем Божага блаславлення на кожную хвіліну жыцця, дароў Святога Духа, а асабліва мудрасці. Няхай Бог ахінае Вас сваімі ласкамі, моцай і сілай, а Яго апека вядзе добрай дарогай. Жадаем, каб спазнаваць зычлівасць і любоў ад кожнага чалавека, якога сустракаеце на сваім шляху.

*З дарам малітвы, удзячныя сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: душэўнага супакою і цяпла, шмат сіл і стойкасці, каб крочыць нялёгкім святарскім шляхам, трывалага здароўя, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Яе дапамогі ў далейшым сужэнні ў нашай парафіі. Мы ўдзячныя Пану Богу за тое, што накіраваў Вас на дарогу святарства. Дзякуем таксама ўсім, хто паспрыяў Вашаму навучанню і выхаванню, духавенству і людзям добрай волі, якія падтрымліваюць Вашыя пачынанні. Шчыра дзякуем за аднаўленне касцёла.

*Закрыстыянін Здзіслаў, моладзь, міністранты, парафіяне са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Дар'і Еўтухоўскай**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, святла і моцы Святога Духа, добрага здароўя і сіл у пераадоленні штодзённых цяжкасцей. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды скіроўвае на Вас свой позірк і ахінае мацярынскай апекай. Няхай вядзе Вас па дарозе да святасці, у цяжкія хвіліны ўзмацняе надзею і дадае веры, а таксама надалей заступаецца за Вас перад Богам.

*Моладзь, дзеці, закрыстыянін Здзіслаў, парафіяне са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды Імянін жадаем здароўя і мноства ласкаў ад Усемагутнага. Бог Сам выбраў Вас, каб служылі Яму і людзям. Няхай Ваша паслуга будзе напоўнена прагненнем Бога. Няхай Маці Хрыста ахінае Вас сваёй любоўю і заўсёды абараняе ад зла.

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, супакой і любоў у сэрцы госцяць. Няхай заўсёды акружае людская зычлівасць, Бог адорвае шчасцем, а святы Заступнік і Маці Божая маюць у сваёй апецы.

*Ружанцовае кола і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважаны Ксёндз Тадэвуш Качан!**

З нагоды 80-годдзя складаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Жадаем апекі Маці Божай, патрэбных ласкаў і дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.

*Парафіяне з в. Навіянка і Пашэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні: Божага благаслаўлення, апекі Марыі Панны, усіх дароў ад Хрыста, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не згасне, а радасць несці Хрыста людзям напаўняе душу.

*Парафіяне з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас найлепшым здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, святы Заступнік нястомна дапамагае, а Святы Дух адорвае патрэбнымі ласкамі. Жадаем таксама радасці, сіл, людской зычлівасці і стойкасці ў працы.

*Парафіяне з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды надыходзячага Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской зычлівасці. Вельмі ўдзячныя Пану Богу за тое, што ў нас служыць святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў малітве і ў працы, які заўсёды гатовы прыйсці кожнаму на дапамогу. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай, вернікі з парафіі ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці і людской добразычлівасці. Няхай Пан Бог блаславляе кожны Ваш дзень, Марыя атуляе мацярынскім плашчом, ласкай і цеплынёй свайго сэрца, Святы Дух асвячае дарогу, па якой ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*Удзячныя парафіяне з касцёла Звеставання НПМ у в. Міжэрычы*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, мноства радасці ў душпастырскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас радасцю і зычлівасцю. Усемагутны Бог няхай спасылае патрэбныя ласкі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Сурвілішкаў*

**Паважанай Сястры Ганне Шыпаровай**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, Божага благаслаўлення, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым, а з твару ніколі не знікае ўсмешка. Шчасці Божа!

*Вернікі з Гіровічаў*

**У сувязі з водпускам супрацоўнікаў рэдакцыі наступны нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 17 верасня.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3752; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная